


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

18 ліпеня 2003 года

№ 29 (430)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Нашкодзіла маланка

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду ўвечары ў час навальніцы гараджане, а таксама жыхары некаторых вёсак засталіся без святла і вады. Як сказаў намеснік начальніка аператыўна-дыспетчарскай службы Маладзечанскіх электрычных сетак Сяргей Мацюта, маланка трапіла ў лінію электраперадач, якая сілкуе горад. Непаладку ліквідавалі за 40 хвілін.

**Ірына РАБУШКА.**

### Новы старшыня

**АСТРАВЕЦ.** У раённым аддзяленні Саюза палякаў Беларусі пасля таго, як адмовілася ад гэтай пасады кіраўнік Марыя Васілёнак, адбыліся змены. На чарговым пасяджэнні члены раённага аддзялення абралі новага старшыню – Марыну Тарарук. Да нядаўняга часу яна працавала ў дзіцячаюнацкім цэнтры, дзе вяла гурток польскай мовы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Гарадь машыны ў Кальчунах

**АШМЯНЫ.** У аўторак у Кальчунах зламыснік падпаліў машыну, якая стаяла на вуліцы. Здарэнне адбылося ў 3 гадзіны ночы. Урон ад пажару – 4 тысячы долараў. Гэта другі падобны выпадак у Кальчунах. Першы раз падпалілі гараж 20 сакавіка ў 3.45. Агонь знішчыў машыну, новую секцыю, кухню, што знаходзіліся ў пабудове.

**Ірына РАБУШКА.**

### Праблема застаецца

**ВАЛОЖЫН.** У Валожынскім раёне адсутнічае шэраг паслуг. Улічыўшы гэтую асаблівасць кіраўніцтва Дома быту пайшло насустрач прадпрымальніку Аляксандру Хвясько і дазволіла адкрыць на сваіх плошчах майстэрню па вырабу ключоў. А вось рамонтам гадзіннікаў, хімчысткай адзення пакуль што ў горадзе не займаецца ніхто. Па гэтай патрэбе людзі вымушаны ездзіць у Маладзечна ці Мінск.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### 7 год за хабар

**МЯДЗЕЛ.** Да 7 год пазбаўлення волі прыгавораны былы старшыня Сырмежскага сельвыканкама. Ён абвінавачваўся ў спробе атрымання хабару за выдзяленне зямельных участкаў у вёсцы Малая Сырмеж (вёска месціцца непадалёку ад возера Нарач і там шмат "крутых" лецішчаў). У адным з двух выпадкаў фігураваў жыхар Маладзечна, у якога за такую паслугу старшыня патрабаваў 400 долараў ЗША.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# На ўсё жыццё – з песняй

**СМАРГОНЬ. Адгучалі фанфары пятага рэгіянальнага фестывалю-конкурсу "Адна зямля". Трыццаць выканаўцаў з Астраўца, Ашмян, Вілейкі, Мядзела, Смаргоні і Валожына прынялі ўдзел. Усе без выключэння, як зазначыла журы, паказалі сябе добра. Песні не проста гучалі, яны ішлі ад душы.**

Сёлета фестываль мусіў перамясціцца пад дах Дома культуры. Як арганізатараў, так і ўдзельнікаў, напалохалі зацяжныя дажджы, што каторы тыдзень запар паліваюць наш паўночна-заходні край. Але менш урачыстым фестываль ад гэтага не стаў. У глядзельнай зале амаль не было пустых месц. Іх занялі як мясцовыя жыхары, так і групы падтрымкі, што прыехалі разам з выканаўцамі.

Пачаўся фестываль, які адкрыла старшыня аргкамітэта конкурсу, намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама Святлана Шмыга ў 13 гадзін. А скончыўся позна ўвечары гала-канцэртам пераможцаў конкурсу. Нават не спецыялісту можна было заўважыць, што трапілі ў гэты спіс самыя дастойныя. Хаця інакш і быць не магло. Журы, якое ўзначаліла заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Галіна Качалава, славіцца сваёй непадкупнасцю, што пацвердзілі і загадчыкі аддзелаў культуры, многія з якіх уважліва сачылі за ходам фестывалю і таксама выстаўлялі балы. А Галіна Балінская з Ашмянскага райвыканкома, якая стала ля вытокаў "Адной зямлі" і наогул падзяліла месцы паміж удзельнікамі двух узроставых груп гэтак жа, як і журы.




Кожны год, як адзін з заснавальнікаў конкурсу "Адна зямля", "Рэгіянальная газета" зацвярджае свой прыз. На фестывалі ў Смаргоні універсальны міксер "Алеся" дастаўся Святлане Пушкаровай з Валожына, якая вынесла на суд слухачоў песні "Вецер перамен" і "Тры крынічанькі".

Фота Марыны СЛІЖ.

Заўважаным у прадказальніцтве аказаўся яшчэ адзін заснавальнік конкурсу – "Рэгіянальная газета". Расказваючы пра падрыхтоўку да мерапрыемства ў папярэднім нумары мы змясцілі здымак Алесі Супрановіч з Вілейкі, што заняла на леташнім конкурсе трэцяе месца ў сярэдняй узроставай групе. Сёлета яна стала не проста пераможцай, а ўладальніцай гран-пры – каляровага тэлевізара. Дарэчы, дастаецца галоўны прыз фестывалю віляйчанам другі год запар.

Добра паказаў сябе Маладзечанскі раён, заняўшы прызавыя месцы адразу ў трох намінацыях. Не ўступілі яму і ашмянцы, якія таксама "адвaявалі" сабе прызы ва ўсіх узроставых групах. А найбольш запамінальным стала выступленне Алены Мечыслаўскай, што праспявала "Не мая віна" і "Каліна". Апошняя песня стала прадрашальнай. Журы аднагалосна аддало Алене першае месца ў старэйшай узроставай групе, шчыра парадаваўшыся за яе. Бо многія памятаюць дзяўчыну па выступленні на першым фестывалі ў Чысці. Тады яна таксама ўразіла голасам, але не прадумала форму адзення, не змагла сябе паднесці. На гэты раз артыстычная ашмянка не проста спявала, яна быццам гаварыла са слухачамі. Больш таго, змагла дастукацца да кожнага сэрца, сабраць найбольшую колькасць апладысментаў.

Сёлетні фестываль "Адна зямля" ўжо змог адзначыць свой маленькі юбілей – рэгіянальнаму конкурсу споўнілася пяць гадоў. За гэты час ён не толькі адкрыў дзесяткі новых зорак і зорачак, але і набыў размах. Вялікую будучыню прадказалі яму старшыня журы Галіна Качалава і кампазітар Алена Атрашкевіч і абяцалі на наступны год зноў прыехаць на конкурс, які перакачуе ў галасістую і таленавітую Вілейку.

**Марына СЛІЖ.**

### Новыя дзённікі



Няма таго, што раньш было. Так можна сказаць пра новыя школьныя дзённікі, з якімі сёлета дзеці сядуць за парты.

4-я старонка

### Купальны сезон



Час купання нарэшце настаў. Дзе гэта можна зрабіць? Аб гэтым – агляд Святланы Цішко.

6-я старонка

### Убачыў цуд



Вілейскі мастак Міхаіл Куліцкі намаляваў карціну і... убачыў у ёй цуд. Чытайце допіс Ігара Кіцікава.

6-я старонка

■ ЗНАЁМІМ З КАНКУРСАНТАМІ

# «Салаўі» фестывалю

**СМАРГОНЬ. Рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Адна зямля» сабраў у горадзе 30 прадстаўнікоў ад сямі раёнаў Гродзенскай і Мінскай абласцей. З асобнымі з іх вас знаёміць газета.**

## «Песню родную шаную»

**На конкурсе выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" астраўчанка Святлана Ерамейка была ўпершыню. Чаго больш за ўсё баялася? Каб не забыць словы.**

Мы размаўлялі з ёй ужо пасля выступлення. Расхваляваная дзяўчына трымала ў руках зялёны шарык, на якім прыгожымі літарамі было напісана: "Прыз глядацкіх сімпатый апошняга рада", і ніяк не магла супакоіцца. "Хвалявалася, як школьніца, – прызналася яна мне, – даўно ўжо не стаяла на сцэне".

Наогул жа кар'еру спявачкі Святлана пачала яшчэ ў дзіцячым садку. Шмат выступала, будучы школьніцай, навучэнкай музычнага вучылішча. А затым былі інстытут і размеркаванне ў Падольскую школу, што ў Астравецкім раёне. Яго гонар і абараняла настаўніца музыкі і спеваў на конкурсе. Рыхтавалася самастойна, а вынесла на суд слухачоў і журы песню "Не загаснуць зоркі ў небе" і "Ты далёка". Вітала яе зала доўгімі, шчырымі апладысментамі. Значыць, сумела за пятнаццаць каротніх хвілін выступлення заваяваць слухача, зачараваць сваім голасам. А гэта ўжо пра многае гаворыць.



Святлана Ерамейка.

## З Мядзельшчыны родам



Дзмітрый Дземідовіч.

**На пятым фестывалі правілі баль дзяўчаты. Сярод канкурсантаў, якія выступалі за сярэднюю ўзроставую групу, Дзмітрый Дземідовіч з Мядзельшчыны быў адзіным мужчынам.**

Прыкметна хваляваўся, бо на вялікую сцэну, як сказаў сам, падымаўся ўпершыню. Хаця канцэрты, мерапрыемствы рознага характару – яго прафесія. Дзіма ўзначальвае адзін з сельскіх Дамоў культуры Мядзельскага раёна. Нягледзячы на тое, што дабірацца на работу даводзіцца кожны дзень цягніком, працу сваю любіць і шмат стараецца рабіць для моладзі, якой у вёсках з кожным годам становіцца ўсё менш і менш. Здольнасці для гэтага ёсць, жаданне таксама. Хлопец у свой час скончыў тры курсы Маладзечанскага музычнага вучылішча але, адчуўшы што духавыя інструменты – не яго прызванне, знайшоў у сабе смеласць пакінуць навучальную ўстанову. Лічыць, што лепш быць добрым загадчыкам клуба, чым дрэнным музыкантам. Тым не менш, у вольны час з задавальненнем бярэ ў рукі гітару, спрабуе складаць песні. Не выключае, што ў наступным годзе зноў паспрабуе свае сілы на фестывалі-конкурсе "Адна зямля".

## Дома й сцены дапамагаюць

**Вікторыя Сямёнава нарадзілася і вырасла ў Смаргоні. Успомніўшы, што дома й сцены дапамагаюць, на сцэне адчувала сябе ўпэўнена.**

Лаўрэат песні "Вясёлкавы карагод", дыпламант абласнога конкурсу патрыятычнай песні, уладальніца прыза "Глядацкіх сімпатый" фестывалю "Адна зямля" 2000 года выйшла да слухача з песнямі "Вецер перамен" і "Нябесны анёл". У надзвычай прыгожай сукенцы колеру марской хвалі, яна нагадвала казачную прынцэсу, якая не чарамі, а голасам заваражыла залу і мэты сваёй дасягнула. Бо, ідучы на конкурс, хацела застацца сама сабой і ў першую чаргу спадабацца не журы, а слухачу, густу якога таксама давярае.

Сярод беларускіх выканаўцаў Віка больш за ўсё любіць ансамбль "Песняры" і мае ў дамашняй фанатэцы запісы амаль што ўсіх песень гэтага калектыву. Ахвотна спявае сама: як дома, займаючыся хатнімі справамі, так і ў студэнцкіх кампаніях. Дзяўчына вучыцца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы і будзе пасля яго заканчэння лагапедам.



Вікторыя Сямёнава.

## Чатыры гады разам



Аксана Юркантовіч.

**У сям'і Юркантовічаў з Ашмян спяваюць усе. Але на прафесійнай сцэне паспрабавалі сябе пакуль што Аксана і яе малодшая сястра Каця.**

Студэнтка Гродзенскага каледжа мастацтваў Аксана Юркантовіч выступала за Ашмянскі раён. Яна амаль з самага пачатку разам з фестывалем. Качуе са святам песні з горада ў горад чатыры гады. Кажа, што атрымлівае ад падобных мерапрыемстваў у першую чаргу асалоду. Так ужо атрымалася, што песня стала часцінкай душы і жыцця.

Дзяўчынка была ў другім класе, калі мама аддала яе ў народны ансамбль "Званочкі". З ім выступала ў родных Ашмянах, на сцэнах установ культуры раёна і вобласці. Затым была эстрадная студыя "Палёт", дзякуючы заняткам у якой набыла сабе імя, "заваявала" слухача. Яна бясконца ўдзячна кіраўнікам Веры і Мікалаю Федарэнкам і лічыць, што толькі дзякуючы ім дабілася пэўных вышынь, стала студэнткай каледжа мастацтваў.

Песні "Белая Русь" і "Два галубы" выконвала Аксана на рэгіянальным фестывалі-конкурсе. Удзячная зала крычала ёй "Брава!".

Падрыхтавала Марына СЛІЖ.

## Пераможцы пятага фестывалю «Адна зямля»

**Гран-пры** – Алеся Супрановіч (Вілейскі раён)

**Малодшая група (12-17 гадоў)**
1. Настасся Жук (Маладзечанскі раён)
2. Ганна Ярошчык (Вілейскі раён)
3. Андрэй Гайдаровіч (Ашмянскі раён)

**Сярэдняя група (18-23 гады)**
1. Настасся Кузьміцкая (Астравецкі раён)
2. Настасся Новік (Маладзечанскі раён)
3. Марына Яцкевіч (Ашмянскі раён)

**Старэйшая група (23-30 гадоў)**
1. Алена Мечыслаўская (Ашмянскі раён)
2. Святлана Гайдукевіч (Смаргонскі раён)
3. Віталь Капцёнак (Маладзечанскі раён)

**Спецыяльныя прызы**

**Прыз глядацкіх сімпатый** – Святлана Пушкарова (Валожынскі раён)

**Прыз "Творчая надзея"** – Кацярына Нарэйка (Астравецкі раён)

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Мы былі першымі

У час трансляцыі зімовых Алімпійскіх гульняў у Інсбруку мы ўбачылі нейкую цікавую групу музыкантаў. У кароткіх кажушках, з доўгімі валасамі, на нейкіх электрагітарах-дошках яны выконвалі выдатную музыку. Гэта быў ансамбль "Бітлз". Вось тут і давялося нам шмат над чым падумаць. Дзе ўзяць ці хоць бы паглядзець гэтыя гітары.

Нияк адначы ў Мінскім Палацы культуры камвольнага камбіната Юрась Антонаў іграў на такой гітары. Як знаёмы і сябру (а мы разам вучыліся ў Маладзечанскім музычным вучылішчы) ён даў мне яе памацаць і растлумачыў, што ўключаць трэба ўзмацняльнік гуку.

Потым Юрась прывозіў у Маладзечна і паказваў нам новую гітару вядомай фірмы FENDER, абліцаваную кракадзілавай скурай. Аж дух заняло ад такога інструмента ў футарале. Але ж гэта велізарныя грошы.

Прыйшла смелая думка рабіць іх самім, бо чалавек знойдзе выйсце, калі моцна падумае. Мне як мастаку не было асаблівай складанасці намаляваць яе на паперы, а сталяр зрабіў выдатны корпус з грыфам. Лады паставілі ад другіх гітар, пафарбавалі, і атрымаўся шыкоўны інструмент.

Альгерд Апановіч, цудоўны радыёмайстар, усім нашым дошкам уставіў электрадушу. Бо тады ў вялікіх гарадах у продажы з'явіліся першыя гуказдымальнікі.

Забыліся мы пра цымбалы і "скрыблі" толькі на сваіх гітарах. Без моцнага гуку на ёй можна было займацца ў любым куце.

Нарэшце ў Дом культуры набылі паўакустычную электрагітару, а бас зрабілі самі. Пачаліся першыя рэпетыцыі. Мне даручылі гітару-сола, бо бегалі пальцы ад домраў і балалаек. Мікола Ходаш выбраў сабе гітару-рытм, клубны інструмент яго вельмі задавальняў, а Альгерду Апановічу, выдатнаму басісту, нават не трэба было і вучыцца.

У барабаны лупцаваў рытмічны танцор, балетмайстар Слава Федаровіч.

Начамі сядзелі каля радыё, пісалі на магнітафон усе мелодыі, дзе гучалі гітары. Сабралася ядрэнная фанатэка, якую потым пераводзілі на ноты. Асабліва лёгка гэта рабіў Мікола Ходаш, бо ён баяніст, а таму добра адчуваў гармонію. Як узяць той ці іншы акорд, мы ўжо даволі добра ўмелі, але бывае заблытаешся і пытаешся ў свайго кіраўніка:

— Коля! Як узяць ля бемоль мажор?

А ён з гумарам кажа:

– Вазьмі звычайны соль мажор і падыміся на адзін лад вышэй.

Глянь ты, і сапраўды, як проста.

Вырашылі ладзіць танцы ў Доме культуры. Гэтым складам, бо раней мы ігралі рознымі эстраднымі ансамблямі і запрашалі лепшых навучэнцаў Маладзечанскага музычнага вучылішча.

Дарэчы, кларнетыст Рыгор Куранец сёння — выкладчык кансерваторыі ў Расіі, а трубач Валерый Мнухін – прафесар Берлінскай кансерваторыі.

Дом культуры заказаў нам чырвоныя камізэлькі, і прэм'ера адбылася. Моладзь нібы ажыла. Што рабілася ў зале! З нашага рэпертуару зніклі папулярныя шэйкі і твісты, затое з'явіўся рок-н-рол. Танцоры-віртуозы тых танцаў за іх талент дружыннікі выводзілі з залы, а кіраўніцтва Дома культуры ў час ігры выключала нам апаратуру.

У вузенькіх штанах і з доўгімі валасамі юнакам не дазвалялася быць у зале, хоць чалавек купіў білет. Не ведаю чаму, але ўсё выхаванне зводзілася да таго, каб усе былі падстрыжаныя пад адзін грэбень.

У зале гучала прыгожая інструментальная музыка без вакала, і ўсе мы атрымлівалі вялікую асалоду.

Каб ведаў хто, як нам было няпроста іграць. Не было галоўнага эфекта гуку, прасцей кажучы, раха, педалі пад нагой ці хаця б ручнога вібратара. Каб гук быў жывым і прыгожым у павольных мелодыях, даводзілася вібрыраваць кісцю, як на скрыпцы.

Гэта сёння ёсць такія прыстасаванні, у якіх тысячы розных камбінацый для гукавых эфектаў.

Мы ігралі прыгожым мяккім гукам на сваіх гітарах, і, думаю, гэта не самы горшы варыянт, бо над гукам музыкант працуе ўсё сваё жыццё.

Нас прыязджалі слухаць з Маладзечна, пакуль там не з'явіўся свой ансамбль на фабрыцы музычных інструментаў пад кіраўніцтвам інжынера-канструктара Эдуарда Пуруса. Гэта быў вакальна-інструментальны ансамбль, які нота ў ноту капіраваў рэпертуар ранніх "Песняроў", хоць магчымасці ў гэтага калектыву былі вельмі вялікія.

У нас былі ўласныя кампазіцыі, апрацоўкі розных папулярных мелодый, мы шукалі нешта сваё і ганарыліся тым, што ў Смаргоні мы былі першымі, а першым заўсёды цяжка.

Калі, бывае, сёння саджуся, каб змахнуць пыл з клавіш, найграваю шыкоўную мелодыю танга, якую, думаю, напісаў сам Мікола, але нікому з нас не сказаў.

Музыка вечная, і таму ў маёй памяці назаўсёды застанецца таленавіты музыкант і выкладчык Мікола Іванавіч Ходаш.

Юрый ЦЕРАБУН.

# Купальны сезон у разгары

**Белыя матылькі снегу... Зімой так хочацца вішні... А летам, нармальным цёплым летам, так хочацца купацца! Праўда, надвор'е сёлета не надта спрыяе. Але ж як стрымацца, калі цела рвецца ў ваду?**

АСТРАВЕЦ. Рашэннем райвыканкома для купання, як і летась, вызначаны 2 месцы. Камунальныя службы горада добраўпарадкавалі тэрыторыю пляжаў: устанавілі «грыбкі», уладкавалі месцы для распранання.

АШМЯНЫ. Тут купацца можна толькі ў гарадскім вадаёме, што ў квартале Будаўнікоў.

ВАЛОЖЫН. У раёне на гэты год устаноўлена 14 месцаў для купання на Заходняй Бярэзіне, Іслачы, мясцовых вадаёмах. Узбуджальнікі хваробы ў вадзе не знойдзены.

МАЛАДЗЕЧНА. Па санітарна-гігіенічных паказчыках для купання прыдатныя Васькаўскае вадасховішча, кар'ер у Мароськах, запруда ў вёсцы Насілава. На Ушы, як выязджаць на Вілейку, ёсць добры пляж з раздзявальнямі. Вадаём у Крыніцы аблюбавалі каровы, таму ён не зацверджаны выканкомам як зона адпачынку.

ВІЛЕЙКА. Усе пробы вады ў адкрытых вадаёмах сёлета былі добрыя па бактэрыялагічных і хімічных паказчыках. Дазволена купацца ў Салдацкім возеры (урочышча Дубаўка), Вілейскім вадасховішчы каля пірсу, на Віліі ў Ніжнім парку, у вадаёмах каля вёсак Рабунь, Сосенка, Вязынь, а таксама на рацэ Сэрвач каля Людзвінова.

СМАРГОНЬ. Сёлета купацца можна толькі ў вадаёме каля вёскі Клідзяняты. Як паведаміў урач-гігіеніст Андрэй Завацкі, **вынесена пастанова аб прыпыненні купання ў 3 вадасховішчах: у вёсцы Бялкоўшчына, на вуліцах Камінскага і Маладзёжнай у Смаргоні. Там у вадзе знойдзены жыццяздольныя яйкі аскарыдаў.**

МЯДЗЕЛ. Як вядома, пакупаўшыся ў Нарачы, можна атрымаць цэркарыёз, «сверб купальшчыка». Але для таго, каб цэркарыі (узбуджальнікі хваробы) пачалі рабіць сваю «чорную справу», неабходна, каб вада прагрэлася хаця б да 19-20 градусаў. Сёлета чэрвень і пачатак ліпеня былі халодныя. І пакуль што дыягназ «цыркарыёз» не пастаўлены ніводнаму чалавеку.

Так што купайцеся на здароўе – вам нішто не пагражае, акрамя прастуды.

**Святлана ЦІШКО.**



Вада іскрыстая ў спёку ахалодзіць. Фота IREX/ProMedia.

## Дзе адпачыць «дзікуном»?

**МЯДЗЕЛ. На тэрыторыі Нацыянальнага парку "Нарачанскі" ёсць 26 абсталяваных турысцкіх стаянак.**

Да паслуг тых, хто адпачывае, – альтанкі, сталы, месцы для вогнішча, туалеты і г. д. Знаходжанне аднаго чалавека за суткі каштуе 1000 рублёў (не плацяць дзеці да 12 год, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, воіны-інтэрнацыяналісты, інваліды). За аўтамашыну бяруць 500 рублёў за суткі.

Найбольшай папулярнасцю ў турыстаў карыстаюцца стаянкі "Антанізберг", "Качаргі", бо да іх лёгка дабрацца. Але яны немаленькія і таму лепш падыдуць тым, каму не перашкаджаюць адпачываць суседзі. А тыя, хто шукае зацішных месцаў, выбіраюць для адпачынку стаянкі на Блакітных азёрах ці на возеры Мядзел.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Убачыў цуд

**ВІЛЕЙКА. Карціна, намаляваная вілейскім мастаком Міхаілам Куліцкім, прыцягвае тым, што на яе можна глядзець гадзінамі, адкрываючы для сябе ўсё новыя і новыя вобразы. Вось што пра яе расказвае сам мастак:**

"Я пішу больш за трыццаць гадоў: пейзажы, нацюрморты. А тут такое. Сам не магу зразумець, як усё атрымалася, быццам маёй рукой нехта вадзіў. Паставіў кропку, праз гэты пункт расчарціў лініі, вакол правёў акружнасць і адвольна зафарбаваў некаторыя фігуры. І толькі пасля гэтага разгледзеў сімвалы асноўных сусветных рэлігій, знак радыяцыі, і ўсё гэта на гадзіннікавым цыферблаце, дзе гадзіннікавая стрэлка паказвае 8, а мінутная – 12. Вось і атрымліваецца, што ў карціне запісана нараджэнне Сусвету (вялікі выбух з пункту), асноўныя



Вілейскі мастак Міхаіл Куліцкі са сваёй незвычайнай карцінай.

рэлігіі (чалавецтва) і канец свету, які адбудзецца ў выніку радыяцыі праз чатыры гадзіны па ўсясветным часе. Вось толькі што гэта: папярэджанне або ўжо непазбежнае, і колькі гэтыя чатыры сусветныя гадзіны, я пакуль не ведаю".

**Ігар КІЦІКАЎ.**

# Не толькі птушкі ў вырай ляцяць

**Большасць з нас, хоць і не давяраюць дзяржаве, любяць сваю краіну. Але калі на Беларусі такое надвор'е, як апошнія 2 тыдні, чаму б і не «здрадзіць» радзіме на тыдзень-другі? Тым больш што зараз час адпачынкаў.**

Спачатку дастаём з панчохаў і іншых скарбонак свае зберажэнні. Затым падлічваем іх, цяжка ўздыхаем і ідзём у турагенцтва. У Маладзечне працуюць турагенцтвы «Юлія», «АлатанТур», «Солвекс», Бюро вандровак і экскурсій. З іх дапамогай можна адправіцца, куды душа пажадае. А душа жадае сонца і мора, на якія так скупіцца неласкавая радзіма. Да таго ж работнікі турфірмаў гавораць такія «цёплыя» словы: Іспанія, Італія, Турцыя, Балгарыя...

ТУРЦЫЯ. Тут можна адпачыць летам усёй сям'ёй. Акрамя добрых пляжаў, атэляў, вам прапануюць наведаць аквапарк і басейн. Тэмпература вады ў іх будзе добрая, а не як Бог дасць. Можна скарыстаць «гарачыя» пуцёўкі. Вылет арганізуецца як з Масквы, так і з Мінску.

ЕГІПЕТ. Гэта краіна цікавая не толькі пірамідамі. Чыстае Чырвонае мора, каралы, рыбкі... Абавязкова скарыстайце магчымасць заняцца дайвінгам – падводным плаваннем. Гэта вам не дно Васькаўскага вадасховішча даследаваць! А яшчэ сафары, бедуіны, Каір – сталіца краіны, Шар-эль-Шэйх (словы якія прыгожыя!).

БАЛГАРЫЯ. Год за годам гэтая краіна застаецца любімым месцам адпачынку беларусаў. Самыя папулярныя курорты – Албена, Сонечны бераг, Залатыя пяскі. Балчык, Кранева, Памор'е, Несебр не такія знакамітыя, таму там спакайней, менш турыстаў. Сёлета падчас адпачынку ў Балгарыі ёсць магчымасць зрабіць экскурсію ў Стамбул (Турцыя). Кошт пуцёўкі павялічыўся ў параўнанні з пазамінулым годам: дадаткова трэба заплаціць 35 EUR за румынскую транзітную візу. Затое балгарская віза для дзяцей да 16 гадоў бясплатная.

ІСПАНІЯ зацікавіць аматараў сярэдневечча: прадугледжана наведванне замкаў, рыцарскіх турніраў. У гэтай краіны багатая культурна-гістарычная спадчына. Памятаеце, што такое Рэканкіста? Няважна. У Іспаніі летам вельмі цёпла, ёсць мора, чыстыя пляжы – і гэта галоўнае. А знакаміты аквапарк Порт-а-Вентура плошчай 110 га ўразіць не толькі дзяцей, але і дарослых.

Зрэшты не абавязкова ехаць на другі канец кантыненту. Адпачыць і падлячыцца можна і ў Крыме. За апошнія гады палепшылася якасць абслугоўвання, а клімат па-ранейшаму мяккі, гаючы. Да таго ж для большасці беларусаў не існуе моўнага бар'ера.

А яшчэ ж ёсць Польшча, Чэхія, Францыя, Германія, дзіцячыя летнікі ў Балгарыі і Славакіі. Вось толькі грошы... На такі адпачынак трэба мець залаты запас. Беларусы, якія не маюць ніякіх зберажэнняў, едуць на веласіпедзе на Вілію і ладзяць пікнік. Зрэшты якая розніца: Мазурскія азёры, Балатан ці Вілейскае вадасховішча?

**Святлана ЦІШКО.**

## Свята з прысмакам каравая

**ВАЛОЖЫН. Давайце на хвілінку зазірнём у адзін з маляўнічых куточкаў Валожыншчыны і пазнаёмімся бліжэй з яе насельнікамі. А менавіта з жыхарамі вёсачак Ракаўскага сельскага савета Міхалова і Міжрэчча, дзе нядаўна ладзілася Свята вёскі.**

Вёскі размешчаны недалёка ад магістралі Мінск-Гродна. Калі Міжрэчча можна ўбачыць здалёк, то Міхалова туліцца да пышнай зяляніны лесу, у зацішку, схаваўшыся ад цікаўнага вока.

А за бярэзнічкам, на палянцы, асветленай сонцам, і адбывалася свята, якое адкрыў гаспадар гэтай зямлі – старшыня сельсавета Святаслаў Дударчык. Вяскоўцы прывіталі яго хлебам-соллю. Усіх кранулі шчырыя словы старшыні, поўныя любові да гэтай зямлі і людзей.

Міхалова і Міжрэчча, як і многія вёсачкі Валожыншчыны, невялічкія, з дагледжанымі хатамі і прыбранымі дварамі. У Міхалове 47 двароў, у Міжрэччы 31. У Міхалове ёсць пачатковая школа, а ў Міжрэччы – маласырзавод. І жывуць тут добрасумленныя і працавітыя людзі. У Міхалове 144 жыхары, у Міжрэччы 63. З іх пенсіянераў адпаведна 29 і 19, а 52-м жыхарам не споўнілася яшчэ 18 год. Гэта адна дружная сям'я, у якую людзей аб'яднаў калгас "Праца", дзе і шчыруе большасць на яго палетках, а таксама на маласырзаводзе.

І вынікі гэтай працы на свяце падвёў старшыня калгаса Мікалай Яўсейчык. Ні адзін чалавек не быў абдзелены ўвагаю. Асаблівыя ўшанаванні атрымалі былы вязень канцлагера Уладзімір Міхневіч, ветэран вайны Анатоль Скурко, мнагадзетныя сем'і Алены і Яраслава Бучко, Алены і Івана Раманчыкаў, Алы Шкель і Святланы Ляхновіч. Словы падтрымкі і пажаданні сямейнага шчасця атрымала і маладая сям'я Рыгора і Клаўдзіі Раманчыкаў. Не засталіся без увагі і старажылы: Браніслава Сямёнаўна Більман, якой споўнілася 90 год, і Яўгенія Фамінічна Акуловіч – ёй споўнілася 86 год.

Ёсць у Міхалове і Міжрэччы тыя, дзякуючы каму вёсачкі набылі непаўторнае аблічча. Гэта «майстар на ўсе рукі», столяр Ілля Пралат, да якога звяртаюцца аднавяскоўцы ў патрэбе. І гэты рахманы, з добрым сэрцам чалавек яшчэ нікому не адмовіў у дапамозе.

Ідучы паўз вёскі, нельга не прыпыніцца ля двароў самых дбайных гаспадароў, дзе заўсёды пануе чысціня і парадак. Гэта Марыя Акуловіч у Міхалове, у Міжрэччы – Аляксандр Падакоў. А Анечка Скурко з Міхалова, вучаніца 6 класа, – самы лепшы кветкавод. Яна сваімі руплівымі ручкамі вырасціла цуда-кветнік, старанна падбірала розныя кветачкі – атрымаліся цікавыя ўзоры, якія цешаць вока кожнага. Яна ж яшчэ дзялілася сваімі выпечкамі з цеста. Так, ёсць тут свае пекары. А галоўная з іх – Марыя Гуд. Яна спякла каравай, дзякуючы якому свята набыло своеасаблівы прысмак.

Узнёслы настрой стваралі саматканыя вырабы Марыі Дубовік і Настассі Карнялюк, аздобленыя вышыўкай. Спяваў народны гурт "Гасцінец" і дзіцячы калектыў "Вянок". Зачароўваў сваёй ігрой на баяне Максім Палуйчык. Горача сустрэлі вяскоўцы сваіх землякоў – спевакоў братоў Хлястовых, зорак беларускай эстрады.

А завяршылася свята старадаўнімі танцамі: падэспань, кракавяк, полька. Прыхільнікаў сучаснай музыкі сабрала дыскатэка.

**Людвіка ТАЎГЕНЬ.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Час паліву – камендацкі час

Нядаўна Чысцінскай жыллёва-камунальнай гаспадаркай былі развешаны аб'явы, з якіх вынікала, што ў сувязі з палівам градак жыхарамі пасёлка на верхніх паверхах дамоў не хапае вады. Таму, спасылаючыся на рашэнне сельвыканкома, а таксама на нейкі міфічны закон, мясцовая ЖКГ увяла своеасаблівы камендацкі час для паліву агародаў з 5 да 7 раніцы. Пры гэтым была прадэкларавана самая строгая забарона палівацъ грады ў любы іншы час.

Угледзеўшы ў гэтым парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзян мясцовымі ўладамі, я як падаткаплацельшчык і законапаслухмяны грамадзянін напісаў у адрас сельвыканкома і ЖКГ патрабаванне растлумачыць мне шэраг пазіцый абвесткі. У прыватнасці, чаму ў пятніцу 13 чэрвеня, калі ўвесь дзень ішоў дождж і паліваць агароды нікому не магло прыйсці ў галаву, напор халоднай вады (гарачай у пасёлку няма з пачатку чэрвеня) быў мінімальным? Мяне цікавіла пытанне пра тое, у якім складзе выканкома прымалася гэтае рашэнне, ці былі альтэрнатыўныя думкі, ці было рашэнне калегіяльным, ці яно стала плодам фантазіі аднаго чыноўніка. А галоўнае, мне хацелася высветліць, імем якога закона пужалі чыноўнікі чысцінцаў, абяцаючы прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці "парушальнікаў", па якому яго артыкулу і на падставе якога яго зместу.

Я атрымаў афіцыйныя адказы з абодвух інстанцый. З адказу дырэктара ЖКГ Віктара Грынчука я высветліў, што мой зварот быў успрыняты як запыт. Але вядома, што запыты накіроўваюць дэпутаты, але ў папярэднюю выбарчую кампанію мне проста было адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдатам. Цытую адказ: "...даю вразумительный ответ... У перыяд сухога надвор'я (а ці было яно?) пры інтэнсіўнай паліўцы агародаў ... рэзка падае ціск халоднай вады, а на трэціх (я жыхар трэцяга паверха, акрамя 13.06.2003 г. гэтага ні разу не адчуў – У.З.) і чацвертых паверхах вада ўвогуле адсутнічала. Усё гэта выклікала цэлую плынь скарг з боку жыхароў, што пацвярджаецца запісам у кнізе ўліку заявак". Далей фразы аб напружанай абстаноўцы, крытычнай сітуацыі...

Засталося незразумелым, па якой усё ж прычыне ў дажджлівы дзень напор вады ў кранах быў невялікім?

Два словы пра ўстаноўлены графік паліву. І зноў цытата: "Найлепшы час для паліву агародаў, як паказвае практыка, 5-7 гадзін раніцы." І тут зноў паўстае пытанне: а ці не з'яўляецца гэта парушэннем артыкула 43 Канстытуцыі, якая гарантуе сваім грамадзянам права на адпачынак? Уявіце сабе, як даводзіцца чалавеку, адпрацаваўшы 2 гадзіны ўран-ні на агародзе, не адпачыўшы і не выспаўшыся, прыходзіць на работу да сябе на вытворчасць і пасля гэтага «ўкалываць» поўны рабочы дзень?

Ну, а калі зазірнуць у артыкул 21 Канстытуцыі, то там можна знайсці норму, якая мае сілу Закона: "Забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы". Ад сябе дадам: а значыць, і дзяржаўных службоўцаў.

"Кожны мае права, – чытаем далей у 21-м артыкуле Канстытуцыі, – на дастойны ўзровень жыцця, уключаючы дастатковае харчаванне..." А вось тут як раз нашая дзяржава пакуль не ў стане забяспечыць насельніцтва якаснымі і па даступных цэнах прадуктамі харчавання, у тым ліку вітамінізаванымі. А на так нелюбімымі чыноўнікамі градах якраз і расце найбольш танная і якасная прадукцыя. Але тут і паспелі вы, панове чыноўнікі, са сваімі страшылкамі, гатовыя перакрыць людзям кісларод, пардон, тонкі струменьчык вады... Ужываючы пры гэтым туманныя заклінанні на тэму законнасці. Насамрэч аказваецца, што ніякім законам падобныя санкцыі не прадугледжаныя. Вы кіруецеся правіламі Мінжылкамгаса, проста службовай, унутрыведамаснай інструкцыяй, якая з'яўляецца падзаконным актам. Затое беларускім заканадаўствам прадугледжана юрыдычная норма, згодна з якой вызначана: калі любы падзаконны акт не адпавядае Закону або Канстытуцыі, то дзейнічае Закон або Канстытуцыя, як Асноўны Закон дзяржавы. Мне тут могуць запярэчыць, а як быць з правамі грамадзян, якія жывуць на верхніх паверхах?

Дык вось, па-першае, мясцовыя ўлады ўжо каторы год стараюцца "прывучыць" усіх жыхароў Чысці большую частку летняга часу абыходзіцца ўвогуле без гарачай вады. А гэта азначае, што дзеці, прыйшоўшы з вуліцы, без гарачай вады не маюць магчымасці добра памыць брудныя рукі; што старыя і хворыя людзі пазбаўленыя гігіенічных умоў;што ў бальніцы нельга ў адпаведнасці з санітарнымі нормамі вымыць скарыстаны посуд і памыць пасцельную бялізну; што рабацягі трацяць усякую надзею хаця б калі старанна адмыць прамасленыя рукі.

Па-другое, кожнаму дзіцяці вядома, што Чысць – пераважна адна-двухпавярховы пасёлак. Але для поўнага прасвятлення тэмы, я вырашыў патэлефанаваць сваім знаёмым каб высветліць, ці на самой справе ў іх дамах на працягу чэрвеня, як гаворыць у адказе дырэктар ЖКГ, "на трэціх і чацвёртых паверхах вада ўвогуле адсутнічала". І толькі з адной кватэры па Палескай вуліцы мне паведамілі, што такія выпадкі бываюць. Але яны лічаць, што гэта адбываецца таму, што дом знаходзіцца ў канцы галіны водаправода і таму да іх не даходзіць.

Я зазірнуў у ЖКГ і разам з сакратаром установы пералістаў журнал заявак на чэрвень. Высветлілася, што на адной з яго старонак заявак было пяць і столькі ж на наступнай. А калі ўлічыць, што ў Чысці жыве 5000 чалавек, то з-за 10 жыхароў, якія падалі скаргі з нагоды недахопу вады, не варта было абвяшчаць "напружанае становішча" і "крытычную сітуацыю", пра якія мне расказаў дырэктар ЖКГ.

Мабыць, таму што адчуваюць слабасць сваіх аргументаў і юрыдычнай абароненасці фармулёвак сваіх адказаў, чысцінскія кіраўнікі апелююць да закона маральнага. Але па якім маральным законе старшыня Чысцінскага сельвыканкома Генрых Кутас аднаасобна прымае рашэнне, якое супярэчыць інтарэсам большасці грамадзян, ставячы свой подпіс на бланку сельскага выканаўчага камітэта як старшыня сельсавета?

**Уладзімір ЗВЕРНІК,**
**педагог, журналіст.**

# Спорт супраць дзіцячага экстрыму

**Аднойчы, калі я вяртаўся дадому па вуліцы Багдановіча ў пасёлак Чысць, я ўбычыў, што з нашага двара на вялікай хуткасці літаральна выскакваюць на веласіпедах дзяўчынкі і хлопчыкі гадоў 10-12. Выканаўшы круты паварот улева, яны адразу ж трапляюць на сустрэчную паласу. Бачнасць для вадзіцеляў практычна нулявая да самага апошняга метра перад паваротам: таму што ён закрыты кустамі і пладовымі дрэвамі. І тут мяне літаральна працяла думка: а што, каб...?**


Таня Паўловіч, Аксана Пірожкіна, Мантанас Таранас, Наташа Паўловіч, Каця Таран і Віка Таран сталі пераможцамі на адкрытым спаборніцтве вуліцы імя Багдановіча ў Чысці.

Я зайшоў ува двор, у момант сабраў усіх юных "гоншчыкаў" і высвятліў, што яны вырашылі арганізаваць спаборніцтвы і вызначыць, хто з іх мацнейшы. Пры гэтым знайшліся і секундамер, і суддзі (яны ж і ўдзельнікі спаборніцтваў па сумяшчальнасці). А мне падумалася: выдатная ідэя, але разам з тым і смяртэльна рызыкоўная. Не тое месца выбралі для спаборніцтваў.

У канцы мінулага года ў адным з нумароў "РГ" быў апублікаваны мой крытычны матэрыял наконт няўмелай арганізацыі мясцовай школай асенніх вакацый, у выніку чаго дзеці не ведалі куды сябе дзець і знаходзілі небяспечныя, ці проста хуліганскія гульні. І вось зноў канікулы, на гэты раз летнія, а значыць самыя працяглыя...І зноў дзеці шукаюць для сябе поле дзейнасці.

Ну а мне прыйшлося растлумачваць дзецям, што яны ставілі пад небяспеку сваё жыццё, правесці з імі міні-семінар па правілах дарожнага руху. Затым я прапанаваў ім правесці сапраўдныя спаборніцтвы па велагонках, але па стадыёне. Дамовіліся аб часе правядзення. Самі спаборніцтвы вырашылі аб'явіць адкрытым першынством вуліцы М.Багдановіча. Гэта азначала, што ў іх могуць удзельнічаць рабяты і з іншых вуліц пасёлка. Разлічвалі пры гэтым і на заахвочвальныя прызы. У якасці ўзнагарод дырэктарам раённага клуба для дзяцей і падлеткаў Уладзімірам Луцкім былі выдадзены самыя сапраўдныя граматы.

І вось настаў дзень старту. Дзеці, у тым ліку і з іншых вуліц Чысці, дружна сабраліся на школьным стадыёне са сваімі веласіпедамі. Было бачна, што яны хваляваліся. Але пасля пэўнай размінкі, поўнасцю былі гатовыя да старту. Першымі гонку правялі дзяўчаты. І тут у розных узроставых катэгорыях пераможцамі выйшлі Каця Таран, Наташа Паўловіч і Віка Таран. У самай масавай узроставай групе граматамі былі ўзнагароджаны неаднаразовыя прызёры розных спаборніцтваў па... плаванні Таня Паўловіч і Аксана Пірожкіна. Трэба заўважыць, што апошняя праявіла зайздроснае для сваіх адзінаццаці гадоў самавалоданне і байцоўскія якасці. Яна ўпала з-за няспраўнасці веласіпеда, але знайшла сілы працягваць гонку і заваяваць трэцяе месца.

У хлопцаў прызавыя месцы размеркаваліся такім чынам: Лёша Цар, Відзім Мамай і госць Чысці з Літвы – Мантас Таранас. Акрамя грамат пераможцы былі ўзнагароджаны і салодкімі прызамі.

Але самае галоўнае — дзеці цяпер ведаюць, што такое раптоўная небяспека на дарозе, тармазны шлях аўтамабіля і яго даўжыня, лабавое сутыкненне і яго вынікі для жыцця чалавека, асабліва пры сутыкненні веласіпедыста з аўтамабілем. Гэтыя дзеці ўжо ніколі не будуць рызыкаваць сваім жыццём. Гэтыя не. А іншыя?

**Уладзімір ЗВЕРНІК.**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

## БАТЭ прыедзе ў Чысць 10-га жніўня

Чысцінцы правядуць кубкавы матч 1/16-ай фінала з чэмпіёнам краіны барысаўскім БАТЭ не 9-га, а 10-га жніўня ў нядзелю, прымеркаваўшы яго да традыцыйных святкаванняў Дня Будаўніка. Добра і балельшчыкам "Маладзечна-2000", якія, калі захочуць, змогуць у суботу з'ездзіць у блізкую Смаргонь, а назаўтра завітаць у Чысць.

**24 чэрвеня. Верас (Нясвіж) – Забудова 2:0**

**1 ліпеня. Тарпеда-СКА (Мінск, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 4:0**

**5 ліпеня. Гомель-СДЮШАР – Забудова 1:2**

Галы: (7); Півавар (34), Татун (72). На 72-ой хвіліне Татун не рэалізаваў пенальці

**8 ліпеня. Маладзечна-2000 (дубль) – Днепр-Трансмаш (Магілёў, дубль) 0:1**

**12 ліпеня. Дынама (Брэст, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 7:0**

**12 ліпеня. Палессе – Забудова 0:3**

Галы: Татун (2), Вышынскі (72, 81). Склад: Мароз – Татун, Казяк, Гружэўскі, Пятроўскі – Матусевіч, Вышынскі (Смолік,82), Смірноў (Савіцкі,80), Абановіч – Грыхуцік (Антановіч,60), Півавар (Байлукоў,65)

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Шэры футбол

**5 ліпеня. 1000 гледачоў. Суддзя Пырэеў. Бяроза – Смаргонь 1:0.**

**12 ліпеня. 2500 гледачоў. Суддзя Лазнюха. Смаргонь – Нёман (Масты) 1:0**

Гол: Валовік (9-пен). Склад: 16.Шляхавой – 4.Курак, 3.Судзін, 6.Трындзюк, 5.Жачко – 2.Тарасаў (12.Дукса,65), 10.Карасёў, 9.Дзігілевіч (18.Мяць,65), 7.Грабаздзін, 6.Кукалевіч (17.Мазалоўскі,85) – 11.Валовік

Гэтая дамашняя сустрэча наўрад ці чым запомніцца балельшчыкам. Каманда прадэманстравалі шэры, нецікавы футбол. Галявых момантаў, бадай, і не было. Хіба толькі смаргонцы тройчы прабілі крыху міма варот. Яны мелі гульнявую перавагу, бо, напрыклад, падалі за матч 8 вуглавых супраць ніводнага ў гасцей. А гол нарадзіўся амаль з нічога. Валовік рухаўся з мячом убок ад варот, і пасля яго сутыкнення з абаронцам арбітр наважыўся прызначыць пенальці. Дарэчы, на варотах гасцей гуляў Шыдук, які межсезонне правёў у "Смаргоні", а перад самым пачаткам чэмпіяната вярнуўся ў "Нёман", дзе даўно гуляе і з'яўляецца капітанам. На «расстрэл» з адзінаццацімятровай кропкі ён зрэагаваў, нават крануўся ў бок мяча, але спыніць не змог, настолькі моцным быў удар.

У матчы не прымаў удзел Кашкар, адлучаны ад складу галоўным трэнерам Уладзімірам Уткіным з-за праяўленняў непрафесіяналізму ў вольны час. Невядома, ці будзе ён далей выступаць за "Смаргонь", бо, напрыклад, Іваноў і Казлоў, якія гэтак жа праштрафіліся яшчэ на стартавым адрэзку чэмпіяната, так і не былі вернутыя ў каманду.

| | |
|---|---|
| 5. Ліда | 23 |
| 6. Граніт | 23 |
| 7. Смаргонь | 20 |
| 8. Камунальнік | 20 |
| 9. Ведрыч-97 | 18 |

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Каманда чапляецца за ачкі

МАЛАДЗЕЧНА. Склад у дамашнім матчы пад дажджом з магіляўчанамі быў такі: Міхайлаў – Маляўка, Косак, Сысой – Лявончык, Якубоўскі, А.Альховік (Веташкін,34), Дараховіч (Кухлей,60), Пазняк – Сідарэнка (М.Альхавік,46), Макрыцкі.

Перавагай валодалі госці, у першым тайме яны стварылі некалькі галявых момантаў і ўвасобілі сваю перавагу ў гол. На працягу хвілін дваццаці пасля перапынку гаспадары перахапілі ініцыятыву і нават былі блізкія, каб зраўняць лік, Макрыцкі і Лявончык.

Перыяд актыўнасці прайшоў разам з выдаленнем М.Альхавіка на 69-ай хвіліне за неспартыўныя паводзіны пасля раней атрыманага папярэджання. Канцоўка матча для маладзечанцаў уключыла прапушчаны гол (падчас абодвух узяццяў варот не дапамог Міхайлаў), траўму Маляўкі, чацвёртае папярэджанне Сысоя ў сезоне.

Пасля гэтага матча старшы трэнер (менавіта так яго называлі, а не, напрыклад, той, хто выконвае абавязкі галоўнага) Ігар Гасюта пакінуў клуб. Даўно няма ўжо ў Маладзечне і Аляксандра Кісценя. Кіраваць калектывам засталіся начальнік каманды Ігар Старавойтаў і проста трэнер Андрэй Любчанка.

**13 ліпеня. 1500 гледачоў. Суддзя Чабыкін.**

**Дынама (Брэст) – Маладзечна-2000 0:0**

Склад: Сцепановіч – Косак, Кабельскі, А.Альховік, Пазняк – Кухлей, Якубоўскі, Дараховіч (Галенка,89), Лявончык – Макрыцкі, Сідарэнка (Тураў,62)

Істотна зменена абарона, дзе раней гуляў толькі Косак, ды і тое на іншай пазіцыі, здолела захаваць свае вароты ў недатыкальнасці. Праўда, атака брастаўчан амаль ніякіх клопатаў не дастаўляла. А вось нашы землякі маглі забіць тройчы пасля перапынку. Спачатку выдатна правёўшы матч, Макрыцкі прайшоў з мячом па чужой палове поля, адпасаваў Сідарэнку, які схібіў, прабіўшы вышэй варот. Потым партнёраў выратоўваў галкіпер Вірко, які бліскуча парыраваў удар Турава галавой метраў з 11-і пасля флангавага праходу Кухлея, а таксама штрафны ўдар у выкананні Пазняка метраў з 23-х.

**13.07. Славія – Зорка-ВА-БДУ 3:3, Днепр-Трансмаш – Белшына 5:2.**

| | |
|---|---|
| 1. Тарпеда-СКА | 31 |
| 2. Гомель | 31 |
| 3. Дынама (М) | 29 |
| 4. БАТЭ | 24 |
| 5. Шахцёр (-3) | 21 |
| 6. Тарпеда (Ж) (-1) | 19 |
| 7. Днепр-Трансмаш | 18 |
| 8. Дарыда | 17 |
| 9. Дынама (Б) | 16 |
| 10. Нафтан | 15 |
| 11. Нёман | 15 |
| 12. Лакаматыў (М) (-1) | 13 |
| 13. Зорка-ВА-БДУ | 12 |
| 14. Белшына | 11 |
| 15. Славія (-1) | 10 |
| 16. Маладзечна-2000 | 10 |

Бамбардзіры: Бяганскі (БАТЭ), Карніленка (мінскае "Дынама"), Мархель (жодзінскае "Тарпеда") – па 8... Альхавік, Макрыцкі – па 3.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ІНВАСПОРТ

## Перамогі маладзечанцаў на чэмпіянаце Еўропы

**МАЛАДЗЕЧНА. У чэрвені ў галандскім Асэне прайшоў чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы для інвалідаў. Там выступілі абодва знакамітыя маладзечанцы Ігар Фартунаў і Віктар Жукоўскі.**

Фартунаў (катэгорыя Б3 для спартсменаў з астаткам зроку да 8-10%) перамог ва ўсіх трох скачковых дысцыплінах, прычым устанавіў сусветны рэкорд у "вышыні" — 203 см. У "даўжыні" меў 6,82, у "трайным" – 14,40.

Ён таксама ўдзельнічаў у бегавых стартах, стаў другім у бегу на 100 м (час 11,27) і трэцім – на 200 м (23,03).

Жукоўскі (катэгорыя Б1 для цалкам невідушчых, выступае з дапамогай "лідэра" Анатоля Панкова) перамог у скачках у даўжыню з вынікам 6,20 (асабісты рэкорд 6,44 устанавіў летась на чэмпіянаце свету). Паказаў гэтыя сантыметры ў трэцяй спробе.

У трайным скачку Віктар атрымаў траўму ў адной са спроб і не змог працягнуць барацьбу.

Трэнер Фартунава Георгій Шэлег застаўся дома, вымушаны быў сачыць за выступленнямі сваіх выхаванцаў на адлегласці. Дарэчы, у складзе зборнай краіны выступалі яшчэ чацвёра спартсменаў, да падрыхтоўкі якіх Шэлег мае непасрэднае дачыненне. Гэтыя спартсмены нарадзіліся не ў Маладзечне і зараз тут не жывуць (у асноўным, жывуць у Мінску), але вучыліся ў маладзечанскай школе-інтэрнаце, правялі тут з дзесятак гадоў, і іх першым трэнерам быў якраз Шэлег.

Вольга Зіневіч (Б2 – астатак зроку на лепшае вока да 3%, 1975 г.н.) заняла два першых месца (100 м і 200 м) і другое месца ў "даўжыні".

Руслан Сівіцкі (Б2, 1975 г.н.) стаў другім у трайным скачку і трэцім у "вышыні", дзе менавіта яму раней належыў сусветны рэкорд 202 см (аб'яднанне катэгорый Б2 і Б3), усталяваны на Паралімпійскіх гульнях у Сіднеі.

Аляксандр Бацян (Б2, 1977 г.н.) заваяваў другое месца на 100 м і трэцяе на 200 м.

Мікалай Семяняка (Б3, 1973 г.н.) стаў трэцім у кіданні кап'я. Ён, дарэчы, выступае за міні-футбольную зборную, выйграў з ёй абодва чэмпіянаты свету.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**18 ліпеня. 17-00.**
**Маладзечна-2000 (дубль) – Дарыда (Ждановічы, дубль)**

**19 ліпеня. 18-00.**
**Маладзечна-2000 – Дарыда (Ждановічы)**

**20 ліпеня. Ліда – Смаргонь**

+0=0-2 0-3. Летась 0:2 дома і 0:1 на выездзе

**20 ліпеня. 17-00.**
**Забудова – Змена (Мінск)**

+2=0-1 4-2. У першым крузе 1:2 (Грыхуцік) на выездзе

7 месца, 16 ачкоў – 6 месца, 19 ачкоў

**24 ліпеня. 18-00.**
**Смаргонь – Хімік (Светлагорск)**

+0=1-1 0-1. Летась 0:0 на выездзе і 0:1 дома

**24 ліпеня.**
**Сож (Крычаў) – Забудова**

+0=1-0 2-2. У першым крузе 2:2 (Вышынскі, Савіцкі) дома

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Бялова Уладзіміра**! Жадаем табе ўсяго найлепшага ў дзень нараджэння. Здароўя, удачы, кахання, павагі. *Жонка, дзеці.*

Віншую сяброўку **Неваровіч Танюшу** з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе. *Ульяна.*

Любую матулю **Якубовіч Алу Макараўну** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця. *Дзеці.*

■ ІМЯНІНЫ

**18 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Сяргея.
**Каталіцкія**: Каміля, Шымана.
**19 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Марфы, Ульяны, Антона, Валянціна, Васіля, Інакенція, Лук'яна, Сідара.
**Каталіцкія**: Вадзіслава.
**20 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Еўдакіі, Ефрасінні, Марыі, Германа.
**Каталіцкія**: Часлава.
**21 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Пракопа, Феафіла.
**Каталіцкія**: Андрэя, Віктара.
**22 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Марыі, Аляксандра, Кірылы, Панкрата, Фёдара.
**Каталіцкія**: Марыі.
**23 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Антона, Данілы, Лявона.
**Каталіцкія**: Брыгіды, Апалінара.
**24 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Алены, Вольгі.
**Каталіцкія**: Крыстыны.

## Кінатэатр «Радзіма»

**21-27 ліпеня. "Экстрэмалы"**, ЗША, баявік – у 15.00 (акрамя 21, 23, 25) і 17.00.

**"Хлопцы з жаночага інтэрната"**, ЗША, камедыя, акрамя асоб да 18 год, – у 19.00 і 21.00.

(Кожную сераду ільготныя білеты на сеанс у 17.00)

**Для дзяцей**

**19-20 ліпеня. "Джымі Нейтрон: геніяльны хлопец"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.

**22 ліпеня. "Крадзеж чэмпіёна"**, ЗША, камедыя – у 11.00.

**24 ліпеня. "Лапы"**, ЗША, камедыя – у 11.00.

**26-27 ліпеня. "Карлік Нос"**, Расія, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.

# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына 50/178, жыву адзін у сельскай мясцовасці, в/а няма. Пазнаёмлюся з жанчынай для сумеснага жыцця. Маладзечна-3, п/д 007797.

■ БУДОЎЛІ

# Ізноў на танцы

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры паблізу райвыканкома адбудоўваюць танцавальную пляцоўку. Яна была закінутая 8 год.**

Упершыню на ёй затанчылі і заспявалі 13 гадоў таму. Але нядоўга музыка гучала на танцпляцоўцы. У 1995 годзе ўсё змоўкла. Да сёлетніх дзён ад пляцоўкі застаўся толькі фундамент.

Нарэшце, мядзельская моладзь вырашыла адрадзіць традыцыі сваіх старэйшых сяброў, а можа, і бацькоў. Беспрацоўныя ўзяліся за будаўнічыя работы. Працоўная моладзь і навучэнцы – за добраўпарадкаванне. Хлопцы і дзяўчаты поўнасцю рэканструявалі танцпляцоўку: пабудавалі эстраду, паставілі агароджу, зрабілі лаўкі і пафарбавалі ўсё неабходнае. Грошы на будаўнічыя матэрыялы выдзеліў раённы цэнтр занятасці. Дарэчы, беспрацоўная моладзь атрымае за працу на танцпляцоўцы заработную плату, сімвалічную, канечне. Але на першыя танцы якія неўзабаве ізноў збяруць мядзельцаў, хопіць.

**Ірына РАБУШКА.**



**У Маладзечне таксама, як і ў Мядзеле, ёсць танцавальная пляцоўка, што месціцца ў гарадскім парку, на якой ужо шмат год ніхто не танцуе. Раней у парку была просценькая невялікая пляцоўка, залітая бетонам. На ёй ледзь змяшчаліся людзі, якія сюды прыходзілі. Нарэшце пабудавалі высотную танцпляцоўку з дахам. Але чамусьці танцы спыніліся.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Хто будзе наступны?

Вёска Кабыльнік (цяперашняя назва Нарач). У яе цэнтры вялікую плошчу (тут раней адбываліся кірмашы, стаяла скульптура савецкага салдата) заняў будынак, які нагадвае паравознае дэпо. У ім месцяцца выканком сельсавета, паштовае аддзяленне, ашчадны банк, Дом культуры, бібліятэка, музычная школа. Знайшлося месца для АТС, магазіна "Малако" (Нарачанскага масласырзавода), камбіната бытавога абслугоўвання.

І гэта яшчэ не ўсё. У адным з пакояў некаторы час месцілася прыватная аптэка. Потым яе не стала (у вёсцы здаўна ёсць дзяржаўная аптэка).

Памяшканне, што пустуе, спадабалася індывідуальнаму прадпрымальніку з Маладзечна. Над дзвярыма змясціў шыльду "Прысмакі". Прадаваў хлебабулачныя і мясныя вырабы. Відаць, справы пайшлі не вельмі прыбытковa, і гандлёвая кропка апусцела.

А ў канцы мінулага года дзверы зноў адчыніліся. Аб'явіўся трэці наймальнік памяшкання. Прадае хлеб, кілбасныя вырабы, яйкі і іншыя прадукты. Хлеб, дарэчы, прывозіць з Мінска, яго хутка разбіраюць, бо смачны, якасны. Гаспадар магазіна – мясцовы жыхар. Няхай яму спадарожнічае поспех!

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Збяры карцінку

**Вітаем вас, аматары конкурсаў. Працягваем наш конкурс "Збяры карцінку".**

У дзевяці летніх нумарах "РГ" мы друкуем кавалачкі цэлага малюнка. Сёння прапануем вам сёмы фрагмент малюнка. Першы быў надрукаваны ў №23 за 6 чэрвеня, апошні будзе надрукаваны у пятніцу, 1 жніўня. Галоўнае, не згубіць ніводнага кавалачка, бо карцінка не атрымаецца.

Збярыце карцінку, прыдумайце ёй назву ці складзіце вершык. Складзеную карцінку са сваім творам (з назвай) дашліце нам у рэдакцыю "РГ" (Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а) не пазней за 10 жніўня.

Да канца апошняга летняга месяца мы аб'явім пераможцаў.

Фрагмент №7

■ ЗДАРЭННЕ

## Загарэўся хлопчык

**ВІЛЕЙКА. 13-гадовы хлопчык загарэўся ў гаражы.**

Здарэнне адбылося ў Вязыні. У пабудове не было святла. Хлопчык вырашыў падсвяціць запалкай, ад чаго ўспыхнулі пары бензіну. Ён пачаў сам гасіць агонь, у выніку чаго трапіў у бальніцу з апёкамі 2 і 3 ступеней. Згарэў і дах гаража.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

### Знайдзі словы

**У гэтым хаосе літар схаваныя словы – назвы рубрык, старонак – усё звязанае з нашай газетай.**

**Злучыце словы лініямі або проста запішыце, дашліце або прынясіце свае рашэнне ў рэдакцыю – і вы атрымаеце ад нас білеты ў кіно! Чакаем кемлівых і настойлівых.**

**Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н | А | А | Н | О | Н | К | Р | Ы | А | Н | Е | К | Д | О |
| Ц | В | І | Н | Т | С | Н | А | М | І | М | І | Н | У | Т |
| Э | Ь | Н | Ы | Э | Л | Е | Д | А | Н | С | Я | Я | Л | Д |
| Н | Ы | Е | З | Д | Ы | Т | В | Л | Ы | Н | М | ‘ | А | Я |
| К | А | Л | Е | П | С | Р | О | І | Н | І | С | А | Е | Л |
| Г | Р | А | Й | О | Е | ‘ | К | М | Я | Ь | Ц | Ч | Р | Г |
| Д | А | М | Д | Р | Т | Р | У | Ф | Э | Р | А | В | О | О |
| С | Т | В | А | С | К | С | Ы | У | К | О | К | Т | Е | П |
| К | Э | А | І | Я | О | П | Г | К | С | П | В | Ы | Н | Н |
| А | Л | О | Г | А | Д | У | А | Р | А | А | П | Ы | Т | А |
| Т | У | Р | Ы | З | М | К | А | Ц | Ы | Я | Л | Е | Т | А |

# Купон 29

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ШАШКІ

# «О, кофе сладостный, и ты, миндаль сухой!»

**Шашкі, створаныя самім геніем-народам, вельмі захапляльная гульня, і разам з тым, яна ніколі не скоўвае фантазіі.**

На першы погляд даволі простая гульня, але гэтая прастата невычарпальная. Таму невыпадкова тэму шашак у свеце паэзіі ўзнімалі многія паэты. Сярод іх – рускі паэт Эдуард Багрыцкі, які ў пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці (1915– 1916 г.г.) пісаў стылізаваныя, умоўна-рамантычныя вершы.

Адзін з іх "О, кофе сладостный, и ты, миндаль сухой!" з'явіўся своеасаблівым гімнам шашачнай гульні.

*О, кофе сладостный,*
*и ты, миндаль сухой!*
*На белых столиках*
*расставленные шашки...*
*Клетчатая доска,*
*и круглые костяшки*
*Построены в ряды*
*внимательной рукой.*
*Бог шашечной игры*
*спокоен и угрюм,*
*На локти опершись,*
*за стойкой дремлет немо...*
*Какой возвышенной*
*и строгой теоремой*
*В табачной радуге*
*занялся вещий ум!..*
*Смотри внимательней,*
*задумчивый игрок,*
*Куда направилась*
*рассыпаная стая...*
*И вот коричневый*
*квадрат освобождая,*
*Передвигается*
*слепительный кружок!*

А вось як выглядае падобная паэзія на шашачнай дошцы.




Белыя пачынаюць і выйграюць, здымаючы адначасова 7 шашак чорных. Той, хто прышле правільны адказ, будзе ўшанаваны рэдакцыяй.

**Анатоль РОГАЧ.**

